# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **[illegible]тына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 32 (417) — Нядзеля, 24 жніўня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Савецкая дыпляматычная акрабатыка

Пасьля надзвычай шумнага прапагандовага старту ў сувязі з апошнімі падзеямі на Блізкім Ўсходзе, савецкая дыпляматыя ня вытрымала свайго перабольшанага першапачатковага тэмпа, і заламалася. Дыспрапорцыя паміж прапагандай і аб'ектыўнымі фактамі, якая была за вельмі відавочнай, і іншыя прычыны прывялі да няўдачы й кампрамітацыі, якія ня так часта даводзілася перажываць савецкім кіраўніком на міжнароднай арэне. Хрушчову прышлося занесьці на сваё конта яшчэ адну паразу, і столькі доказаў некансэквэнтнасьці якія, трэба было спадзявацца, у найлепшым выпадку павінны былі-б абцяжаць ягоны дасюлешні рух наперад па драбіне партыйнай герархіі. Апрача таго, на Захадзе ня без падставаў уважаюць, што гэты выпадак пацьвярджае ранейшыя прыпушчэньні аб узрастаючай ролі й значэньні камуністычнага Кітаю ў нутраной і вонкавай палітыцы гэтак званага «сацыялістычнага лягеру».

Спачатку разгледзім коратка храналягічны прабег гэтых падзеяў.

Ужо ад даўжэйшага часу Хрушчоў дамагаўся скліканьня нарады «на найвышэйшым узроўні», дзе ён спадзяваўся, відавочна, спладзіць новы «дух Жэнэвы», у цені якога можна было-б схавацца ад ажыцьцяўленьня канкрэтных мерапрыемстваў для дасягненьня міжнароднага адпружаньня, чаго дамагаўся і далей дамагаецца Захад. Апошні блізкаўсходні крызіс стварыў савецкім кіраўніком спрыяльныя ўмовы для зьдзейсьненьня гэтага замеру. Хрушчоў пачаў настойліва дамагацца неадкладнага скліканьня нарады кіраўнікоў урадаў для абмеркаваньня гэтага крызісу. На прапанову заходніх краінаў склікаць такую нараду ў рамках Рады Бясьпекі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў Хрушчоў адгукнуўся пазытыўна. Гэта ясна відаць з нумару газэты «Праўда» за 24 ліпеня. Тут надрукаваны тэкст адказу Хрушчова Макміляну, у якім гаварылася: «Мы падзяляем вашы меркаваньні што да падыходу да абгаварэньня гэтага пытаньня на адмысловым паседжаньні Рады Бясьпекі з удзелам кіраўнікоў урадаў». Гэтая згода Хрушчова выказаная таксама ў ягоным адказе Айзэнгаўэру, дзе гаварылася: «Мы таксама згодныя з тым падыходам да працы на гэтым адмысловым паседжаньні Рады Бясьпекі, які прапануе спадар Макміллян». У гэтым-жа нумары «Праўды» зьмешчаныя адказы Хрушчова на пытаньні Кінгсбэры Сміта, дырэктара агенцтва «Юнайтэд Прэс Інтэрнэшнэл», дзе Хрушчоў, між іншага, заявіў: «Вы выказваеце думку аб тым, каб сустрэча кіраўнікоў урадаў адбылася ў рамках Рады Бясьпекі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Гэта не пярэчыць нашым паглядам».

Апрача таго, у гэтым-жа нумары «Праўды» было зьмешчанае паведамленьне аб тым, што Собалеў — савецкі прадстаўнік у АЗН — выслаў Генэральнаму сакратару гэтай арганізацыі Гамаршэльду ліст з падзякай за ягоную згоду ўзяць удзел у нарадзе кіраўнікоў урадаў у рамках Рады Бясьпекі. Мала гэтага, 30-га ліпеня ў «Праўде» зьявіўся артыкул, у якім Захад абвінавачваўся ў тым, што ён не жадае нарады кіраўнікоў урадаў у рамках Рады Бясьпекі. У гэтым часе савецкі ўрад быў незадаволены толькі тым, што ня была яшчэ вызначаная дата нарады. Тады Англія й Амэрыка запрапанавалі склікаць такую нараду 12-га жніўня. І вось пятага жніўня Хрушчоў раптоўна адмовіўся ад удзелу ў нарадзе ў рамках Рады Бясьпекі, якой ён пару дзён таму так упарта дамагаўся, і высунуў дамаганьне склікаць адмысловую сэсію Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Недарэчнасьць гэтай прапановы стаецца асабліва відавочнай, калі ўзяць на ўвагу тое, што яшчэ 18 ліпеня дэлегат Задзіночаных Штатаў ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў афіцыйна прапанаваў склікаць адмысловую сэсію Генэральнай Асамблеі, але спэцыяльна не дамагаўся гэтага, каб даць савецкаму ўраду магчымасьць выказаць свае ўласныя меркаваньні што да сустрэчы на найвышэйшым узроўні.

Гэты манэўр Хрушчова яшчэ раз выразна паказаў цэламу сьвету, чаго вартыя розныя прапановы камуністычных лідэраў. Ранейшыя дасьветчаньні ўжо таксама далі шэраг нязьбітых доказаў, што й спатканьні на розных «узроўнях», як і розныя пагадненьні з камуністычнымі кіраўнікамі маюць дакладна такую самую цану. Яны парушаліся й будуць парушацца ў кажны мамэнт, калі гэта будзе выгадна камуністычным валадаром. Ня гледзячы на гэта, на Захадзе прадаўжаюць існаваць наіўныя, якія веруць у шчырасьць камуністых і ў магчымасьць дамоўленьня зь імі.

Падкрэсьліўшы агульны й павучальны характар гэтага факту, варта дакладней прааналізаваць ягоную магчымую непасярэднюю прычыну. Адносна гэтага могуць быць наступныя меркаваньні: папершае, поўная зьмена пазыцыі Хрушчова можа быць вытлумачаная палажэньнем на Блізкім Ўсходзе. У сваім першым пасланьні да заходніх урадаў Хрушчоў цьвердзіў, што Амэрыка й Англія зрабілі акт агрэсіі й што на Блізкім Усходзе гарматы ўжо пачалі страляць. Тымчасам у запраўднасьці, амэрыканскае й ангельскае войска, якое п[illegible]ло ў Лібан і Ёрданію на просьбу законных урадаў гэтых краінаў, ніразу ня выстраліла. Яно ня ўмяшалася ў ніякі канфлікт, а толькі спрычынілася да стабілізацыі палажэньня ў гэтых краінах. Улічыўшы гэтую відавочную праўду й свой стрэл у пустую, Хрушчоў у сваім пасланьні 23-га ліпеня пробаваў высоўваць новыя абвінавачаньні супраць Англіі й Задзіночаных Штатаў. Паводля новай вэрсіі, гэтыя апошнія рыхтавалі быццам-бы агрэсію супраць Іраку. Але замест агрэсіі выявілася, што краіны Багдадзкага пакту, Англія й Амэрыка афіцыйна прызналі новы ірацкі ўрад. Такім чынам, надзеі Хрушчова што на спатканьні ў Радзе Бясьпекі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў яму ўдасца асабіста адыграць гучную ролю абаронцы міру, а таксама свабоды й незалежнасьці арабскіх народаў, праваліліся з тэй простай прычыны, што ня было чаго бараніць, бо й міру й свабодзе й незалежнасьці арабскіх народаў нічога не пагражала.

Другое меркаваньне можа быць такое: Хрушчоў згадзіўся-б на нараду ў рамках Рады Бясьпекі, калі-б ня пэкінскі ўрад Мао Цзэ дуна. Аб гэтым дае падставы меркаваць тое, што 23-го ліпеня газэта «Жэньміньжыбао» характарызавала прапанову Макміляна аб скліканьні нарады кіраўнікоў урадаў у рамках Рады Бясьпекі, як «бескарысную контрпрапанову». На наступны дзень гэтая-ж газэта згоду Хрушчова ўзяць удзел у гэтай нарадзе назвала важным крокам на шляху да міру. Гэтая слоўная акрабатыка не магла схаваць аднак таго факту, што пэкінскі ўрад быў абураны тым, што Хрушчоў будзе сядзець разам з прадстаўніком ураду Чан Кай Шы, які прадстаўляе Кітай у Радзе Бясьпекі. Таксама й тое, што Хрушчоў запрасіў на нараду Нэру, а не Мао Цзэ дуна, не магло спадабацца кітайскаму партыйнаму кіраўніцтву. У вынiку ўсяго гэтага Хрушчову давялося ляцець у Пэкін, і пасьля ўрачыста адмовіцца ад свае собскае згоды на нараду ў рамках Рады Бясьпекі.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Дзе-ж аб'ектыўнасьць?

Кажнаму, зразумела, залежыць на тым, каб ня толькі **паказаць** сябе навонкі, але й **быць у запраўднасьці** чалавекам як найбольш пазытыўным. Няма хіба такога нармальнага чалавека, які-б сьведама ймкнуўся да адваротнага. Зрэшты гэта самае ў такой-жа ступені датычыць ня толькі чалавека як адзінку, але таксама й цэлыя групы — сацыяльныя, эканамічныя, рэлігійныя й г. д., ды ўрэшце цэлыя народы. Іншая рэч — наколькі ім гэта ўдаецца.

Аднэй з дадатніх азнакаў характару чалавека — гэта аб'ектыўнасьць у падыходзе да іншых людзей, зь якімі ён у той ці іншы спосаб сутыкаецца ў жыцьці, ды ў ацэне іх характару, жыцьця, дзейнасьці. Адразу адцемім, што калі гаворыцца тут аб аб'ектыўнасьці, дык ня маецца на ўвазе нейкая сталая вызначаная мэханічная формула, якая-б азначала дакладна межы, паза якімі чалавек перастае быць аб'ектыўным. Чалавека ідэальна аб'ектыўнага няма. Але калі ён імкнецца да аб'ектыўнасьці, мае добрую волю як найбольш прыблізіцца да праўды, у вацэне людзей ці зьявішчаў стараецца як найбольш выключыць сваё асабістае дачыненьне ці сэнтымэнт да разгляданага аб'екту — мы маем дачыненьне з чалавекам аб'ектыўным, хаця й шкала аб'ектыўнасьці вельмі шырокая.

На працягу апошніх гадоў на бачынах «Бацькаўшчыны» даволі шырока дыскутавалася некалькі тэмаў. Калі, прыкладам, адна з такіх тэмаў аб г. зв. «распакоўваньні» выклікала вельмі ажыўленую дыскусію, дзе выказваліся самыя скрайнія, вельмі супярэчлівыя пагляды, дык гэта было зусім нармальна, бо было-б абсурдам вымагаць нейкае аб'ектыўнасьці ў падыходзе да праблемаў беспасярэдняе сучаснасьці й нашае будучыні.

Справа аднак прадстаўляецца зусім інакш, калі мы гаворым аб мінулых падзеях ці аб людзёх, што адыйшлі ў вечнасьць, ды хочам як найбольш прыблізіцца да праўды, каб пакінуць яе гісторыі. Тут ужо нас забавязвае аб'ектыўнасьць у такой ступені, у якой гэта толькі магчыма для чалавека. З гэтага гледзішча, перагледзеўшы некаторыя высказваньні на бачынах «Бацькаўшчыны», відаць адразу, што магчымасьці аб'ектыўнасьці некаторых аўтараў яшчэ зусім у пялёнках, ня гледзячы на сівыя віскі гэтых аўтараў.

Дыскутавалася справа Грамады. І што сяньня з гэтае дыскусіі даведаўся аб Грамадзе той, хто яе сам ня ведаў, ня перажыў? Перш-на-перш у яго мусіла-б злажыцца ўражаньне, што ў тыя часы ў Заходняй Беларусі было 3—4 розныя Грамады, варожыя між сабою. Усё гэта ад таго, што аўтары дыскусіі ня ймкнуліся апісаць падзеі й людзей з пазыцыі вонкавых незалежных сьветкаў, як гэта ў такіх выпадках вымагаецца, а стараліся перадусім апраўдаць свае тагачасныя адносіны да Грамады. Быў аўтар дыскусіі сябрам Грамады — стараўся паказаць усё пазытыўнае, старанна выбельваючы цёмныя бакі; быў-жа ён староньнікам іншага кірунку — выкопваў толькі адмоўнае, ні словам не здабываючыся на прызнаньне дадатняга.

Нехта можа сказаць, што з такіх дыямэтральна супярэчных ацэнаў можна атрымаць нешта сярэдняе. Але выбачайце, як бы там ні было, але жыцьцё не матэматычнае дзеяньне, дзе ўжываючы скарачэньні, прыводжаньні да супольнага назоўніка й г. д. можна атрымаць правільны вынік. Калі-б было так, дык мы ведалі-б ня толькі мінулае, але й будучае.

Самы сьвежы прыклад — гэта «Успаміны» сьв. пам. В. Рагулі, крытыка гэтых успамінаў д-рам Я Станкевічам ды абарона іх сп. Стагановічам.

Ізноў-жа, хто асабіста ня ведаў В. Рагулі й ягонае дзейнасьці, атрымаў вобраз або чалавека, дзе спалучыўся нейкі гені дабра й зла, або вобразы двух розных асобаў. Які-ж Рагуля хаця-бы менш-больш праўдзівы? З успомненых артыкулаў — мы не даведаліся. Але факт застаецца фактам, што ніводзін з двух. Калі яшчэ беларускі дасьледавальнік мінулага, які менш больш ведае аўтараў артыкулаў і іхныя матывы ў падыходзе да разгляду дзейнасьці сьв. пам. В. Рагулі, можа ў пэўнай ступені згладжваць суб'ектыўны падыход аўтараў і гэтым самым прыбліжацца да праўды, дык для дасьледавальніка-чужынца — тут джунгля. У залежнасьці ад таго, на каго паклікаецца ён — такім будзе й Рагуля, дый ня толькі Рагуля, але й беларускі нацыянальны рух таго часу.

Дзіўнае й ненармальнае зьявішча: калі нехта з асабістых сэнтымэнтаў выгінае аднабакова праўду, дык заместа стукнуць яму салідна па мяккім месцы (ягонага артыкулу), апанэнт гэтак-жа сама выкрыўляе праўду ў вадваротны бок. І як адзін, так і другі, забываюць чалавека ці падзею, якую апісваюць, а бачаць сябе на фоне гэтага чалавека ці падзеі.

Як ня сумна, але практычна пры такіх умовах даводзіцца заклікаць не да максімуму аб'ектыўнасьці, а хаця-бы толькі да таго мінімуму, ніжэй якога чалавек шкодзіць сам сабе, не гаворачы ўжо аб нашай справе.

**А. Галубіцкі**

---

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» горача вітае ўдзельнікаў Сёмага гадавога Зьезду Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы й жадае ім як найлепшых посьпехаў у працы для нашае нацыянальнае справы.**

**Дапамажы вам, Божа!**

---

# Новы парадак горшы за стары

Ад гэтага году обавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў ня будуць праводзіцца. Скасаваная таксама й натураплата за работы МТС у калгасах. Пленум ЦК КПСС, які адбыўся ў чэрвені сёлета, устанавіў новы парадак нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў. Дзяржава будзе ужо толькі купляць ад калгасаў збожжа, жывёлу на мяса, малочныя прадукты, бульбу, тэхнічныя культуры. З гэтаю мэтаю ўстаноўленыя так званыя адзіныя закупачныя цэны на ўсе віды прадукцыі.

Гэтыя зьмены выкліканыя рэарганізацыяй машына-трактарных станцыяў. Дзяржава нарэшце дазволіла калгасам набываць для сябе сяродкі вытворчасьці: трактары, малатарні, камбайны, сеялкі і іншыя машыны. З гэтай прычыны МТС рэарганізуюцца ў машына-рамонтныя станцыі (МРС). Станцыі ужо ня будуць умешвацца ў гаспадарчую дзейнасьць калгасаў. Паводля статуту, на МРС ускладзены абавязак рамантаваць калгасную тэхніку за плату, прадаваць машыны і запасныя часткі да іх, а таксама забясьпечваць калгасы бэнзынаю. Праўда, на МРС ускладзены таксама дзяржаўны контроль за выкарыстаньнем тэхнікі.

Такім чынам, МТС страцілі для савецкай дзяржавы гаспадарчы кошт. Цяпер тэхніка зьяўляецца фармальна ўласнасьцю калгасаў. Разам з гэтым дзяржава страціла галоўную крыніцу прыбыткаў сельскагаспадарчых прадуктаў, якія калгасы выплачвалі за працу МТС, бо натураплата толькі збожжам складала палову ўсіх нарыхтовак. Па сваіх памерах гэтая аплата была надзвычайна высокая, часта вельмі нявыгадная для калгасу. З гэтай прычыны калгасы на Беларусі ўхіляліся карыстацца камбайнамі, ільнацерабілкамі, бульбакамбайнамі.

Аднак закупы дзяржаваю сельскагаспадарчых прадуктаў ад калгасаў ня будуць мець ніякага падабенства да закупаў у вольным сьвеце. Калгасы мусяць выканаць пляны абавязковай продажы дзяржаве з кажных ста гэктараў зямельнай плошчы, або ворнай зямлі — збожа, мяса, малака, бульбы, тэхнічных культураў і іншых прадуктаў.

Пасьля пастановы аб новым парадку закупу і новых цэнах за прадукты, камуністычная прапаганда стараецца пераканаць калгасы, што новы парадак нарыхтовак нясе калгасьнікам вялікія выгады. А між тым факты гавораць аб іншым.

Камуністычна-савецкія правадыры Беларусі заўсёды ганарыліся надзвычайнымі посьпехамі разьвіцьця ільнаводзтва ў рэспубліцы. Беларусь і ў даўнейшыя часы лічылася краінай таварнага ільнаводзтва. Яшчэ да захопу ўлады камуністычнай партыяй на Беларусі засявалася больш за 100 тысяч гэктараў пад лён. Апошнімі гадамі калгасы, пад націскам Масквы, давялі пасевы лёну да больш за 300 тысяч гэктараў. Віцебская, Маладэчанская і Магілёўская вобласьці самыя ільнаводныя, ў якіх разьмешчана тры пятых усіх пасяўных плошчаў у рэспубліцы.

Савецкі ўрад не шкадаваў высокіх узнагародаў старшыням калгасаў, брыгадзірам, зьвеньнявым, аграномам у ільнаводных раёнах. Указамі савецкага ураду выдатнікам-ільнаводам надавалася годнасьць героя працы Савецкага Саюзу, іх шчодра ўзнагароджвалі ардэнамі й мэдалямі. Фатаздымкі ўзнагароджаных выдатнікаў зьмяшчаліся ў газэтах і часапісах. Асаблівую пахвалу атрымоўвалі старшыні ільнаводных калгасаў, якія ня толькі выконвалі пляны здачы ільнапрадукцыі, але і перавыконвалі іх. Зьверхплянавая здача лёну й семя аплачвалася значна вышэй. Перадавым калгасам завозілася збожжа, алей, макуха, і прадаваліся прамысловыя тавары на ільготных умовах.

Вось-жа на апошнім пленуме ЦК КП Беларусі, які адбыўся ў канцы ліпеня сёлета, сакратар ЦК Мазураў выступіў з дакладам у пытаньнях разьвіцьця сельскай гаспадаркі на Беларусі. У сваім дакладзе Мазураў абганьбаваў ня толькі існаваўшую сыстэму расплаты з калгасамі за лёнавалакно й семя, але й працу калгасаў-перадавікоў, якія перавыконвалі пляны здачы ільнапрадукцыі, за што паводля закону атрымлівалі прэміі-надвышкі. Мазураў упікаў гэтыя калгасы, што яны ў сваіх справаздачах зьмяшчалі заніжаныя весткі аб пасеўных плошчах лёну, з тым, каб паказаць большы ўраджай і гэтым значна павялічыць аплату аднаго цэнтнэру лёнавалакна, якое здавалася дзяржаве. Як паведаміў Мазураў, гэтага году скасоўваюцца ўсякія прэміі-надвышкі за зьвярхплянавую здачу лёну, цукровых буракоў і іншай сельскагаспадарчай сыравіны. Збожжа ільнаводным калгасам будзе прадавацца па звычайных розьнічных цэнах, ня будуць завозіцца і спэцыяльныя тавары для сустрэчнага гандлю.

«Цяпер, — казаў Мазураў на пленуме ЦК, — з устанаўленьнем адзіных цэнаў на сельскагаспадарчую прадукцыю, зьнішчаецца існаваўшая да гэтага часу несправядлівасьць». Апрача гэтага, Мазураў папярэдзіў калгасы, якія атрымлівалі павышаныя прыбыткі, што ад гэтага году прыбыткі будуць значна меншымі. Каб крыху ўцешыць калгасы, Мазураў раіў калгасьнікам больш напружана працаваць, павышаць ураджайнасьць усіх культур, у тым ліку й лёну, з тым, каб дзяржава атрымлівала лёнавалакно высокай якасьці.

Згодна з новым парадкам, Масква ўстанавіла сярэднія нарыхтоўныя цэны на ўсе віды прадукцыі. Для Беларусі прыкладам, збожжа будзе аплачвацца 70 рублёў цэнтрнар. Аднак партыйна-савецкаму кіраўніцтву Беларусі дазволена ў межах сярэдніх цэнаў тым калгасам, якія знаходзяцца на неўрадлівых землях, павышаць закупныя цэны, а на

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

